# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

**БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК**

№ 39 (1637) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 27 ВЕРАСНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.



Гаспадыня вынесла моцны чай. Злева: Надзя Грушэўская, аўтар, Ніна Аверчук, дзед Гаўрыла, Пётр Скепка.

## 20 ЖАНЧЫН З АРЭШКАВА

Каля клуба ў Арэшкаве, сцены якога свецяцца пасля рамонту, растуць высокія ружовыя мальвы і нюхцікі, у вокнах гардзіны і краты. Казалі, што ў сярэдзіне баазерыяй выкладзены сцены, але ў такі дзень, як сёння — пагодлівы і працавіты, усе ў полі, а клуб закрыты. Культурная дзейнасць на вёсцы пачынаецца восенню. Нам, аднак, павязло. У хаце мы засталі Ніну Аверчук, заслужанага культурнага дзеяча Гайнаўшчыны. Ніна была адной з тых, якія распачалі ў Арэшкаве будаваць калектыў, да яе прылучыліся іншыя жанчыны і дружна пачалі працаваць.

„Арэшкі“ — гэта калектыў вакальны і тэатральны разам. Жанчыны спяваюць, іграюць і танцуюць, калі трэба. Такія вялікія ў іх здольнасці і такое адчуванне мастацтва! Няма ў нас трапнай назвы для такіх мастацкіх груп. Найлепш, можа, варта называць такі калектыў н а р о д н ы м м а с т а ц к і м а н с а м б л е м.

Быў добры час для арэшкаўскага ансамбля. Былі гады поспехаў, бурлівага паходу па ўсёй Беласточчыне. Чаму цяпер не так? Шукаючы адказу на пытанне, мы завандравалі ў Арэшкава разам з Пятром Скепкам, які ў апошні час крыху памагае „Арэшкам“ зноў выходзіць на сцэну.

Сядзім пад хатай Ніны Аверчук. Надзя Грушэўская, таксама член ансамбля, і дзед Гаўрыла Аверчук — 86 гадоў. Ніна вынесла на падносе моцны чай, частуе. Вакол сардэчна і спакойна. У садку заліваюцца птушкі, з пушчы плыве водар.

— Пачалося ў Арэшкаве так, — гаворыць Ніна, — прыехаў Лукашук з Гайнаўкі. Ён запісваў песні — агулькі, хрысціны, вясельныя. Раз сабраў нас і пачалі мы спяваць. Ён нас першы арганізаваў. Два гады мы пад ім ездзілі. Потым заняўся намі Крупа. Ён і тэатр у нас заснаваў.

З хронікі калектыву, якую ад пачатку вядзе Ніна, запісваю факты. 26.II.1976 г.: пры гуртку БГКТ створаны калектыў; чле-

(Працяг на стар. 6)

## З ПАЕЗДКІ Ў БССР

## СУСЕДЗІ ЦЕРАЗ МЯЖУ

Аўтамабіль прагна глынаў кіламетры. Мы імчаліся шырокай, задбанай шашою ад Брэста на поўнач, у напрамку **Відамлі,** каб там павярнуць на захад, у бок **Высокага.** Шафёр з Брэсцкага тэлецэнтра, відаць, не адзін ужо раз адмерыў гэтую дарогу, бо вёў машыну ўпэўнена, загадзя ведаючы, што яго чакае за чарговым паваротам. Мой новы сябра, брэсцкі журналіст, **Аляксандр Кавальчук,** таксама не надта цікавіўся акружаючым краявідам, бо гэтыя свае родныя, падбрэсцкія старонкі паспеў ён ужо дакладна апісаць і зняць для тэлебачання.

Толькі я не мог адарваць вачэй ад вакон аўтамабіля. То ж паўднёвая Беласточчына, адкуль я родам, і паўночная Брэстчына нічым асаблівым не розняцца. У іх аднолькавы гістарычны лёс, аднолькавыя тут жывуць людзі, іх нават мова не раздзяляе. Гэта палеская зацвярдзелая беларуская гаворка. Я ўпэўнены, што калі б спыніўся я ў першай-лепшай вёсцы і пачаў гаварыць на сваёй гаворцы, якой карыстаюцца нашы сяляне між Кляшчэлямі і Мілейчыцамі, дык тутэйшыя людзі ўзялі б мяне за свайго чалавека. Калісьці, у даваенны час, а таксама і пры Савецкай уладзе, нашы бацькі і дзядулі ездзілі кожны тыдзень на кірмаш у Высокае, а часам і ў Брэст, да якога ад нас шмат бліжэй, чым у Беласток.

(Працяг на стар. 2)




## НЕ ПОТАМ І РУКАМІ, А ГАЛАВОЮ І ТЭХНІКАЙ

У „Ніве“ наогул слушна пішуць пра тое, што цяжкую працу трэба ведаць і шанаваць. Але, людцы добрыя, не трэба нам маліцца на каленях цяжкай працы, бо нічога мы не вымалім і не зойдзем у добрым кірунку. Будучыня належыць не рукам і поту, а галаве і тэхніцы. Трэба ж, урэшце, зрабіць нам простае параўнанне: з культурным, адукаваным чалавекам усе лічацца, усе паважаюць яго. Мы — беларусы — таму так марудна і здабываем пашану, што ў нашым народзе занадта доўга не было большай колькасці інтэлігенцыі, а прытым нацыянальна свядомай (бо што нам цяпер з тых тысяч інжынераў і дактароў, калі яны не хочуць быць беларусамі?!). Культурны народ — гэта інтэлігентны народ, гэта ўсім паважаны народ. Ніхто не будзе паважаць за цемнату і дурноту. Заўсёды лічацца з культурным народам, хоць можа быць ён і невялікім. Таму ўсе народы намагаюцца мець як мага больш сваёй інтэлігенцыі, ад якой у простай лініі залежыць развіццё ўсяго народа, ягоны прагрэс. Будаваць свой прагрэс, абапіраючыся на чужых, гэта не выхад, гэта зыходжанне ў залежнасць і комплексы.

Свет ужо даўно перайшоў з сельскагаспадарчай цывілізацыі ў прамысловую, а цяпер стаіць на парозе трэцяй — цывілізацыі інфармацыі, у якой галоўнай сілаю руху наперад будзе не машына, а менавіта інфармацыя. Спрошчана кажучы, не рабочая сіла, але думка, яшчэ іначай: галава! Першыя ластаўкі новай цывілізацыі гэта камп'ютэры, гэта робаты, гэта электроніка, кібернетыка і т.п. Сёе-тое мы ўжо чуем пра гэта, ды павярхоўна, не вельмі нам ясна. Бо мы яшчэ сядзім, як ні ў чым не бывала, у першай, сельскагаспадарчай цывілізацыі. Яшчэ ўсяго дарастаем да фабрычнай, усё здзіўляемся, што гаспадары прапалі, аднак ніхто не сядзіць без хлеба... Галодных і жабракоў не відаць, як калісьці.

Мы часам смешна сварымся наконт таго, што важней: мускулы ці мазгі?!

Нехта з дыскутуючых згадваў пра Японію. У той жа Японіі з'явіліся такія фабрыкі, у якіх амаль не відаць рабочых, а даюць яны прадукцыю такую, якую ў нас даюць толькі ў дзесяткі разоў большыя, з тлумам народу паміж машынамі, быц-

(Працяг на стар. 7)

## НА мяжы

# АБ КАНЦЫ ДРУЖБЫ

Здарылася гэта многа гадоў таму назад.

У семнаццаць гадоў я ўжо быў нядрэнным касцом. Шырока захватваў касой і хутка ёю махаў. У сувязі з гэтым за дзень мог скасіць даволі вялікі кусок луга. Не хачу сказаць, што быў я першым касцом у вёсцы, напэўна былі ў Бандарах намнога лепшыя, чым я. Аднак не быў і найгоршым. Вялікім маім няшчасцем былі вадзяныя мазалі, якія рабіліся ад касы на маіх маладых далонях і пальцах. Памятаю, што аднойчы на маіх руках пасля аднаго доўгага дня касьбы зрабілася дваццаць пяць такіх мазалёў. Усе пальцы і далоні гарэлі страшэнна балючым агнём. Ёсць у народзе прыказка: „Лодыр да работы, а мазоль да далоні“. Не буду з ёю спрачацца. У кожным выпадку такія мазалі я меў сотні разоў, маю іх і сёння, хаця іх ужо не так многа, як калісьці. Не ведаю, ці працую менеі, ці скура маіх рук патаўсцела. Зрэшты, прычына можа быць зусім іншая. Справа ў тым, што сёння я, як гэта робяць многія інтэлігенты, працую ў рукавіцах, а гэта калісьці нікому не прыходзіла наваг у галаву.

Запамятаўся мне такі выпадак. Вярнуўся я з луга страшэнна змучаны і лёг на лаву. Вельмі хутка заснуў. Колькі часу спаў — не ведаю. Калі прачнуўся, убачыў, што адна мая рука спаўзла з грудзей і апусцілася на падлогу, пры гэтым яна так акачанела, што я ніякім спосабам не мог яе падняць. Клікаць дапамогі я саромеўся. Ва ўсім цяпер чуў такую змучанасць што не мог варухнуцца. Напружваючы ўсе сілы той рукой, якая ляжала на грудзях, у канцы канцоў падняў другую руку і з вялікай, вялікай цяжкасцю ўрэшце ўстаў. А назаўтра зноў трэба было ісці на луг і касіць. Цяжка!

Гэта ўвертура мае служыць як уступ да гісторыі, звязанай са мной як з касцом. Нашы лугі знаходзіліся ў чатырох кіламетрах ад Бандароў, каля вёскі Сушча. Называлі мы гэты луг „Пад Сушчай“. Зразумела, што туды мы не ездзілі, а хадзілі толькі пехатой. Асабліва цяжка было ісці назад. Нялёгка было з пітвом. Кожны з касцоў нёс з сабой бутэльку малака. Калі выпіў яе, тады ў гэту бутэлькуналіваў ваду і піў яе без канца. У часе гарачага дня выпіваў я ў сярэднім 4-8 літраў вады. Адкуль браў? З рэчкі або з абрэчкаў — з маленькіх азерцаў, якіх на лузе было многа. Часта піў з іх, кладучыся на беразе і апускаючы галаву да вады. Цяжка сабе ўявіць, колькі ў гэтай вадзе было пранічкаў і дзівосных казявак. Думаю, што нябачных для вока мікробаў і бактэрый былі мільёны. Ні са мной, ні з ніводным суседам нічога дрэннага не здарылася і, наколькі мне вядома, ніхто ад гэтай вады не захварэў.

І вось там, пад Сушчай, разыгралася маленькая, але характэрная гісторыя, звязаная з пачаткам і канцом дружбы. Штодзённа да мяне прылятаў бусел. Вядома, што ўбачыўшы касца, ходзяць яны воддаль і чакаюць жаб. Адзін з іх быў выключны. Хадзіў за мною ў адлегласці не большай, чым сто метраў. Ішоў крок у крок. Я махну касой і зраблю крочак наперад — бусел робіць таксама крочак. Калі толькі выскаквала жаба, мой сябра кідаўся за

(Працяг на стар. 7)

# СУСЕДЗІ ЦЕРАЗ МЯЖУ

(Працяг са стар. 1)

Цяпер раздзяляе нас дзяржаўная мяжа, якую не так проста адолець. Беласточчына і Брэстчына апынуліся ў розных дзяржавах і шляхі развіцця нашых вёсак пайшлі рознымі каляінамі. У Польшчы, як вядома, захавалася аднаасобная гаспадарка, з невялікім удзелам кааператыўнай і дзяржаўнай уласнасці на зямлю. На савецкім баку даўно ўжо завяршылася паўсюдная калектывізацыя. Калгасы і саўгасы сталіся буйнымі, па некалькі тысяч гектараў, цэнтрамі па вытворчасці збожжа, бульбы, малака і мяса. Адным з такіх калгасаў з'яўляецца „Савецкая Беларусь“, з цэнтрам у вёсцы **Расна**, куды мы і спяшаліся. Палі гэтага калгаса сягаюць аж да самай граніцы з Польшчай. Дык і хацелася ведаць, як тут людзі жывуць, як хлеб з зямлі дабываюць, як дамы сабе будуюць і дзе адпачываюць.

Дзень быў ліпеньскі, сонечны. Жыта і авёс калгаснікі паспелі ўжо амаль поўнасцю сабраць з поля, у многіх месцах пожня ляжала пад пластом зааранай зямлі. Наглядаўся вельмі дбайны падыход да агранамічных прыёмаў па апрацоўцы зямлі. Стаяла яшчэ і цягнулася даўжэзнымі і шырокімі палеткамі славутая беларуская бульба, красавалася сваёй здаровай зеленню высокая кукуруза.

За чарговым узгоркам раскрыўся перад намі белакаменны краявід. Роўнымі шарэнгамі паабапал шырокай, заасфальтаванай вуліцы, абсаджанай маладымі яшчэ дрэўцамі, цягнуліся аднолькавыя двухпавярховыя домікі-катэджы, якіх у нас назвалі б віламі.

— Гэта Астрамечава, цэнтр калгаса „Памяць Ільіча“, — паясніў Аляксандр Кавальчук. — Адна з лепшых гаспадарак на Брэстчыне. Уяві сабе, што ў іх летась было звыш 4 мільёнаў рублёў чыстага прыбытку. Сад тут цягнецца на 10 кіламетраў без перапынку, проста едзеш сярод яблынь, як у лесе. І высокапрадукцыйная малочная ферма, у якой сярэдні надой малака даходзіць да пяці тысяч літраў у год ад адной каровы, а здараюцца рэкардсменкі, якія даюць і да сямі тысяч літраў.

Я папрасіў, каб шафёр спыніўся. Хацелася зблізку паглядзець на гэтую сучасную калгасную вёску, якая ў нічым ужо не напамінае вядомыя мне на Беласточчыне беларускія вёскі. Пасёлак, відаць, быў пабудаваны параўнальна нядаўна, бо прывулічныя дрэвы не паспелі набраць гэтай шумлівай упэўненасці, што яны проста неабходныя для жыцця і радасці чалавека. Кволыя бярозкі лёгкімі паклонамі ад ветру ледзь значылі сваю прысутнасць. Домікі стаялі роўненька, як салдаты ў час урачыстай пераклічкі. Аднолькава каляровыя і аднолькава распланаваныя, з аднолькавымі вокнамі. Проста можна зайсці да суседа і ўпірацца, што ты ў сябе дома.



Так прадстаўляецца цяперашняя Новая Расна, дзе памяшчаецца цэнтр калгаса „Савецкая Беларусь“.

І я засумняваўся, ці хацелася б мне жыць у гэтай вёсцы, якую прыдумалі разумныя гарадскія архітэктары. Надта ж яна штучная, роўненькая, чысценькая. Не стварыла яе жыццёвая патрэба тутэйшых людзей. У гэтых дамах напэўна ёсць усё тое, што ў гарадскіх кватэрах, ды яшчэ больш, — ёсць прастор і выгода, і сучасная мэбля, і дываны, і каляровыя тэлевізары. Калгас багаты, дык добра плаціць сваім працаўнікам і дае ім усялякія выгады. Аднак гэта ўжо каменная вёска, у якой дамінуючым пахам з'яўляецца пах асфальту і жалезабетону, а не духмянага сена, спелага збожжа і сырадою...

На даўжэйшы роздум, а тым болей на знаёмства з жыхарамі гэтых вясковых катэджаў, на жаль, не хапала нам часу. Чакаў нас **Уладзімір Бядуля**, старшыня праўлення калгаса „Савецкая Беларусь“, якому на вясну гэтага года Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР зноў прысвоіў званне Героя Сацыялістычнай Працы і другую Залатую Зорку. Пазнаёміўся я з ім яшчэ ў 1978 годзе, у час сваёй першай паездкі шляхам герояў аповесці „Буг у агні“, якая тады пачынала паяўляцца на старонках „Нівы“. Ужо тады Уладзімір Лявонцьевіч запаланіў мяне сваёй асобай, што я і выказаў у рэпартажы „Бядуля-мільянер“.

— Мой дэвіз, як кіраўніка вялікай гаспадаркі, — гаварыў мне тады ён, — зводзіцца да простай сялянскай высновы: не адзіным хлебам жыве чалавек.

І згодна з гэтай высновай, Ул Бядуля дамогся, каб у Расне пабудавалі прасторны клуб, каб дзейнічаў тут уласны самадзейны калектыў са штатным (за кошт калгаса) мастацкім кіраўніком, каб Расну наведвалі самыя лепшыя ў Беларусі эстрадныя калектывы, уключна са славутымі „Песнярамі“, каб людзі мелі тут уласны рэстаран...

А з другога боку рашыў ён ажыццявіць у гэтай гаспадарцы самыя сучасныя дасягненні вучоных.

На развітанне, памятаю, Уладзімір Лявонцьевіч паказаў мне свой сюрпрыз: **электронны курант**, які ўключаецца ад дотыку далоні да адной мрамарнай пліткі. Гэты курант памяшчаецца ў камернай зале Расненскага рэстарана. Мне ўдалося ад першага дотыку трапіць далонню ва ўласцівае месца. Курант мілагучна адазваўся вядомай народнай беларускай мелодыяй.

— Значыць, гэта для вас добрая варажба, — заявіў гаспадар. — Вы яшчэ сюды завітаеце.

І я завітаў. Вярнуўся ў Расну да Бядулі пасля васьмі гадоў. Хацелася ведаць, што тут змянілася за гэты час. Калгасны клуб і рэстаран стаялі на сваім месцы. Але побач вырас арыгінальны па сваёй канструкцыі, прасторны гмах, апавяшчаючы сваё прызначэнне вялікім і загадкавым надпісам: **„ЦЭНТР-ХЛЕБ“**. Ад яго пачыналася катэджавая вуліца Новай Расны. Па сваіх прынцыпах забудовы яна нагадвала тое, што я бачыў у Астрамечаве, толькі пасобныя домікі былі тут крыху іншыя па архітэктурнаму афармленню.

— Тут жывуць нашы лепшыя калгаснікі, у асноўным выдатныя спецыялісты, — паінфармаваў старшыня.

— А што тут? — паказаў я на гэты будынак з надпісам „Цэнтр-хлеб“.

— Гэта наш музей, прысвечаны гісторыі і значэнню хлеба ў жыцці чалавека. Аб гэтым болей дакладна раскажа вам наш спецыяліст па гэтай частцы, ваш, дарэчы, цёзка, — **Віктар Дзямянавіч Кармазін**. Але гэта пазней. У нас не прынята, каб пад пусты страўнік малоць языком. Калі ласка, найперш у наш рэстаран...

Давялося падпарадкавацца пажаданням гаспадара. За абедам пайшла і гутарка аб гэтым „Цэнтр-хлебе“. Аказалася, што гэта адзіны ў свеце музей, прысвечаны хлебу, і пра яго давядзецца мне расказаць ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**

Фота аўтара

**На літоўскай зямлі**

# СУСТРЭЧА

Бадай, ніколі Вейсеяй — маляўнічае 2,5-тысячнае мястэчка ў Літоўскай ССР, што ляжыць у 20-ці з лішнім кіламетрах ад савецка-польскай граніцы, не шумела так, як 5 верасня 1987 года. У гэты дзень яно ўпершыню вітала хлебам і соллю шматлюдную групу прыехаўшых сюды прадстаўнікоў розных установаў і прадпрыемстваў Сувальскага ваяводства і Беласточчыны, а таксама гасцей з усёй Літвы — удзельнікаў урачыстага мітынгу дружбы, прысвечанага наступаючаму 70-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Так на вока, сабралася тут каля 30 тысяч людзей. Было шмат і афіцыйных гасцей: сакратар ЦК ПАРП Юзэф Барыла і пасол СССР у Польшчы Уладзімір Бровікаў, І сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку Уладзімір Каладзеюк, І сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Сувалках Вальдэмар Бярдыга і шмат іншых. На чале літоўскай дэлегацыі стаяў І сакратар ЦК Камуністычнай партыі Літвы Петрас Грышкевічус.

Як сказаў у сваёй прамове Ю. Барыла, сацыялістычная аднова ў Польшчы і савецкая перабудова ствараюць сёння вялікія магчымасці для паглыблення ўсебаковага супрацоўніцтва паміж ПНР і Савецкім Саюзам. І нават на прыкладзе гэтай сустрэчы відаць імкненне да развіцця сацыялістычнай дэмакратыі, да яўнасці грамадскага жыцця і інтэнсіфікацыі сацыялістычнай гаспадаркі. Што датычыць Беластоцкага ваяводства, дык сёння наладжана цеснае і непасрэднае супрацоўніцтва 39-ці беластоцкіх і літоўскіх прадпрыемстваў. Гэтыя факты гавораць самі за сябе.

Пасля мітынгу адбыўся вялікі некалькігадзінны канцэрт літоўскіх і польскіх мастацкіх ансамбляў.

А тады ўжо людзі сустракаліся: будаўнікі з будаўнікамі, металісты з металістамі, гандлёўцы з гандлёўцамі. Сустракаліся знаёмыя са знаёмымі, але і незнаёмыя з незнаёмымі цалаваліся і абдымаліся. Людзі частаваліся, рабілі пакупкі. Па вуліцах хадзілі маладыя людзі і па ўсмешках на іх тварах нельга было адрозніць — прыехаўшыя гэта госці з Беласточчыны і Сувальскага ваяводства ці проста літоўская гэта моладзь.

Вось ужо пачалі ад'язджаць некаторыя аўтобусы, а людзі ўсё яшчэ танцавалі ў кругу, не змаўкалі песні. Гэта весяліліся з намі і радаваліся сустрэчы яны, літоўцы — нашы суседзі і браты.

**Ада Чэчуга**



**Не пазнаць, хто яны: госці ці тутэйшыя; аднолькава апранутыя, аднолькава радасныя...**

**Фота Здзіслава Зарэмбы**

# ГУТАРКІ Ў ДАРОЗЕ

## БЭЗ РАСЦЕ

Цікаўлюся падзеямі ў Заблудаве ў час апошняй вайны. Маршчыністы твар жанчыны ажыўляецца. Успамінае эпізоды, можна было б падумаць: малазначныя. Аднак...

— Памятаю, — кажа пані Феліцыя, — як бульбу насіла я савецкім партызанам. Маладою тады была. Мамка наварыла бульбы — і паказала мне сцяжынку да партызанаў. Хаваліся яны ў гушчары, пяцёх іх было, бадай. Усюды тады немцы ездзілі, дык мусілі хавацца тут некалькі дзён. Угледзеўшы мяне, стараліся быць бадзёрымі, жартавалі. Некалькі раз насіла ім ежу, нямнога, бо самі мала мелі мы. За гэта гадзіннік мне падарылі...

Настала хвіліна маўчання. Жанчына яшчэ штосьці ўспамінала.

— А ў сорак першым, пасля бою, тут у нас на гародзе адзін салдат застаўся. Мой тата ўгледзеў, што над бэзам там вароны кружацца ды каркаюць. А ў карчы чалавек паранены ляжаў. Увесь забінтаваны, ад галавы да ног, і шаптаў „Спасі, Господи!" Пэўна, маліцца не ўмеў, бо быў чырвонаармейцам, — растлумачыла цётка.

І тут мне неяк павеяла подыхам з Быкаўскай аповесці. Пані Феліцыя працягвала.

— Людзі заапекаваліся параненым салдатам і завезлі яго ў шпіталь у Беласток. І цяпер яшчэ на мяжы ў маім гародзе расце гэты бэз. Не раз хацелі ўжо вырубаць яго, але я не дазволіла. Гэта ж ён збярог чалавека. Няхай будзе як памяць!

**Ян Мордань**

# ТАК БЫВАЕ...

## УДАЛОСЯ

— Ты ведаеш што, майму сыну ўдалося яшчэ адзін год быць студэнтам, бо ён, бедны, думаў, што ўжо давядзецца сёлета закончыць палітэхніку, — з радасцю расказвала маці сваёй сяброўцы.

— А што, так добра быць студэнтам, здаваць экзамены? А ці не лепш хутчэй закончыць школу і пайсці на работу? — запыталася тая.

— Не, мая мілая, не лепей. Быць студэнтам у Варшаве гэта значна лепш для яго, чым быць на высокай і добра платнай пасадзе! Вось жа Генік наш і стыпендыю атрымоўвае, ды яшчэ кожны месяц па 30 тысяч зарабляе ў студэнцкай спулдзельні працы. Там за абы-што грошы плацяць, а калі ўжо папрацуе крыху, то і вялікія тысячы ляцяць. І дзе ж ён столькі грошай атрымае? Як скончыць ужо і пачне працаваць, дык можа і палавіны таго не будзе, што мае цяпер, — выясняла маці студэнта сяброўцы. — Генік жа ўжо вучыцца восем гадоў. Някепска яму жывецца ды і мне яшчэ прышле грошай, вось і халадзільнік я купіла ў апошні час.

— Ай-яй-яй! Вось гэта дык шчасце. А я вось ужо столькі год працую за такія малыя грошы. Цяпер падбавілі крыху, дык атрымоўваю ўжо 14 тысяч. Якая несправядлівасць на свеце... — засумавала сяброўка маці і папялялася на работу. **(мх)**




Пажыві для людзей — пажывуць і для цябе.

✻

У лесе людзі дзічэюць, а на людзях людзеюць.

✻

У якой веры радзіўся, у такой умірай.

✻

Хто іграецца з агнём — даіграецца да попелу.

## ХТО ВЫЯВІЦЬ ТАЙНУ БЕЛАВЕЖСКАГА ВАЛУНА?

У паўночна-ўсходняй частцы Палацавага парку ў Белавежы, непадалёк ад прагулачнай дарожкі, ляжыць валун, акружнасць якога дасягае шасці метраў. Аўтары даваенных даведнікаў аб Белавежскай пушчы (напр. Я. Клёска, В. Шыманскі, Я.Е. Карпінскі) перадавалі інфармацыю, што на ім існуе выгравіраваны надпіс: "1747 rok" Быццам былі яшчэ якіясьці зацёртыя літары. Сёння ўжо нічога тут не прачытаць! Сам валун мае на сабе пазнакі хутчэй за ўсё ад транспарту... Як кажуць некаторыя людзі, каля валуна, яшчэ пасля вайны, знаходзілася магіла, а на ёй стаяў крыж. І гэта ўсё, што вядома пра валун. На пытанне, што ўвекавечвае валун і якога факту датычыў выгравіраваны на ім год, ніхто з тых, хто займаўся гісторыяй Белавежскай пушчы, нічога не мог сказаць. Некаторыя прабавалі спалучыць 1747 год з падзеяй, якая мела месца ў гэты час, але пра якую мы нічога не ведаем. Славутае паляванне Аўгуста III адбылося на пяць гадоў пазней; дарэчы, увекавечвае гэта абеліск, што стаіць на гаці паміж саджалкамі, і ён устаяў аж да нашых дзён. Дык якая ж тады таямніца звязана з валуном? І ці наогул можна яшчэ выявіць яе? Можа хто з нашых чытачоў нешта падказаў бы?

Тэкст і фота **Пятра Байко**



# БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК


Jerzy Tomaszewski, Belorussians in the eyes of the Poles 1919—1928, „*Acta Poloniae Historica*" (Wrocław), 1985, t. 51, s. 101—102.

Michał Mońko, Na skraju kraju (W Siemiatyczach), „*Polityka*" (W-wa), 1986, nr 46, s. 3; polem. — Eugeniusz Ryżyk, „*Polityka*", 1987, nr 4, s. 10.

Taki ze mnie trochę ksiądz... Rozmowę z Sokratem Janowiczem przeprowadził Roman Wójcik, „*Chłopska Droga*" (W-wa), 1986, nr 51/52, s. 14 (na str. 15 — dziewięć utworów pisarza).

Marceli Kosman, Nowa wiara (Chrystianizacja Litwy), „*Przegląd Tygodniowy*" (W-wa), 1987, nr 7, s. 10.

Stanisław Mieńkowski, Wielkie strzelanie (W Puszczy Białowieskiej), „*Odrodzenie*" (W-wa), 1986, nr 37, s. 12.

Andrzej Czerwiński, Roślinność leśna torfowiska Głęboki Kąt w Puszczy Białowieskiej, na tle uwarunkowań ekologicznych, „*Zeszyty Naukowe Politechniki Białostockiej, Nauki Techniczne nr 54, Inżynieria Środowiska*" (B-stok). 1986, nr 2, s. 31—54

*Leszek Czaja*, Modelowanie matematyczne stanu zanieczyszczenia powietrza w Białymstoku dwutlenkiem siarki. Jak wyżej..., 225—245

Leszek Czaja, Modelowanie matematyczne stanu zanieczyszczenia powietrza pyłem zawieszonym w Białymstoku, Jak wyżej.., s. 247—258.

Leszek Czaja, Prognoza stanu zanieczyszczenia powietrza w Białymstoku dwutlenkiem siarki. Jak wyżej..., s. 259—267.

Leszek Czaja, Prognoza stanu zanieczyszczenia powietrza pyłem zawieszonym w Białymstoku. Jak wyżej..., s. 269—275.


**П. Байко**

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W odpowiedzi na notatkę prasową zamieszczoną w tygodniku „Niwa" — „Bieławieżskaja kaubasa — śmierć", uprzejmie informuję co następuje:

Z informacji uzyskanej od WZSR „Samopomoc Chłopska" Białystok Laboratorium Zakładu Gospodarczego w Hajnówce wynika, że z masarni Gminnej Spółdzielni „Samopomoc Chłopska" w Białowieży pobrano w 1987 roku, to jest do dnia 10.08 br. 24 próby wędlin. Wszystkie wyniki badań były zgodne z normą.

Państwowa Inspekcja Handlowa Okręgowy Inspektorat w Białymstoku poinformował jak niżej:

**W dniach 11—12 i 18 sierpnia 1987 roku została przeprowadzona kontrola w masarni Gminnej Spółdzielni „Samopomoc Chłopska" w Białowieży. W trakcie kontroli dokonano oceny 15 partii wyrobów gotowych wartości 656.259,— zł z czego zakwestionowano 7 partii wartości 321.629,— zł a mianowicie:**

**a) W pierwszym dniu kontroli — kiełbasę parówkową z uwagi na to, że kiełbasa ta została wyprodukowana w cienkich osłonkach wołowych w naturalnych zwojach, zamiast w odcinkach długości 14—16 cm co jest niezgodne z normą,**

**— kiełbasę toruńską i żywiecką z uwagi na brak cech podsuszania skierowano do ponownego podsuszania,**

**— salceson czarny przeklasyfikowano do klasy II, ze względu na mało widoczną kostkę tłuszczu na przekroju oraz zacieki tłuszczu wytopionego z farszu pod osłonką.**

**b) W trakcie kontroli pobrane zostały próby wyrobów gotowych do laboratorium OZ PIH w Białymstoku i na podstawie świadectw analizy ustalono, że w dwóch partiach wędlin spośród 4 pobranych to jest w kiełbasie górskiej, serdelowej wystąpiła obniżona zawartość soli,**

**c) W trzecim dniu kontroli stwierdzono, że kiełbasa parówkowa jest nadal produkowana w naturalnych zwojach, zamiast w odcinkach 14—16 cm i niedoparzona. Jako niezgodna z normą została ona przeklasyfikowana do klasy II i dopuszczona do obrotu po ponownym parzeniu.**

**W toku przeprowadzonej przez PIH kontroli sprawdzono również stan sanitarno-higieniczny pomieszczeń masarni — nieprawidłowości w tym zakresie nie stwierdzono.**

**W dniu 26.06.1987 r. przez PIS i PAR pobrano do badania próby kiełbasy górskiej, toruńskiej i żywieckiej. W kiełbasie górskiej stwierdzono obniżoną zawartość soli oraz o 6,7 proc. większą zawartość tłuszczu w stosunku do normy. Z tytułu niewłaściwej jakości tej kiełbasy (górskiej) naliczono kwotę nienależną oraz dodatkową w wysokości 74.750,— zł.**

**Biorąc powyższe zaniedbania pod uwagę Okręgowy Inspektorat PIH w Białymstoku wystąpił z następującym wnioskiem:**

**— o ukaranie służbowe kierownika masarni Michała Matysiuka za brak nadzoru nad produkcją masarni,**

**— do Kolegium ds Wykroczeń p-ko brygadziście J. Dackiewiczowi z art. 15 ustawy o normalizacji z dnia 27.11. 1961 r. za wyprodukowanie i wprowadzenie do obrotu wędlin niezgodnych z normą,**

— o wprowadzenie prawidłowego peklowania mięsa drobnego i tłuszczu przeznaczonego do produkcji kiełbas,

— wzmocnienie nadzoru ze strony Zarządu nad pracą masarni.

W stosunku do zarzutu autorki artykułu dot. jakości wędlin nie sposób ustosunkować się jednoznacznie, gdyż brak jest bezpośrednich dowodów potwierdzonych przez specjalistyczne służby kontrolne.

Niezależnie od tego mając na uwadze wyeliminowanie w przyszłości powyższych zaniedbań, o ustaleniach Państwowej Inspekcji Handlowej poinformowałem Prezesa i Radę Nadzorczą Gminnej Spółdzielni „Samopomoc Chłopska" w Białowieży oraz jednostkę nadrzędną, to jest WZSR, celem zajęcia stanowiska w przedmiotowej sprawie i podjęcia skutecznych działań, aby w przyszłości nie powtórzyły się tego rodzaju nieprawidłowości przy produkcji wędlin.

Naczelnik Gminy w Białowieży
mgr **Eugeniusz Pawluczuk**



## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Палац шлюбаў у Беластоку на вуліцы Кілінскага. Мал. Уладзіслава Петрука.*

## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

Некаторыя кажуць паўжартам, што беларус гэта толькі іншая назва галоты, і таму: замест пісаць, што на свеце жыве пяцьсот мільёнаў вельмі бедных людзей, можна напісаць, што на свеце ўсё яшчэ пяцьсот мільёнаў беларусаў... У цяперашняй грашаробнай Еўропе такі жарт, аднак, ужо беспадстаўны.

Зацікаўляе мяне ўзнікненне новай характарыстыкі беларуса — як чалавека вечна патаемнага. Яна мяне надта пераконвае, бо прыкладаў дзеля яе браць — не перабраць! У сувязі з тым, што грамадска пануючую раней цывілізацыю вёскі змяняе зараз цывілізацыя горада, гарадызацыя ўсяго жыццёвага ладу, традыцыйная вёска знікае і прападае назаўсёды як перашкода гістарычнаму поступу. Гэта значыць, што беларусы зробяцца татальнай меншасцю, яны ў сваёй нацыянальнай большасці ўжо перасяліліся ў гарады, у якіх не дамінуюць так, як дамінавалі ў сваіх сялянскіх айчынах. У нашых умовах гэта прымушае іх часта затойваць перш за ўсё сваё мужыцтва („вёха"!), затым нярэдка і схізматычнае веравызнанне, і ўрэшце нацыянальнасць. Ідэнтычную з'яву наглядаем і ў палякаў вясковага паходжання, бо польскі горад вельмі ж мяшчанскі, але гэтым палякам куды лягчэй, калі параўнаць іхнюю сітуацыю з сітуацыяй нашага беларуса: ім не трэба таіцца перад суседзямі з рэлігіяй ані з нацыянальнасцю. Таму беларус гэта патройны патаемнік, падпольнік!

Клінічны стан такога становішча я наглядаю на прыкладзе асабліва тых беларусаў, якія пражываюць у гарадах цэнтра Польшчы. І смешна і страшна, бачачы, як яны там проста дзівачэюць у сваім патройным падполлі! Знаёмы я з адной такою радзінаю. Жывецца ім заможна, як і ўсім, падобным да іх. Але,




во, іхны сын вырас ды, натуральная справа, закахаўся ў дзяўчыну, вядома, польку, бо і дзе ж там беларуску знойдзеш... Бацькі той дзяўчыны паважныя людзі, не лайдакі, і вяселле будзе. І тут павісла бяда — і над сынам гэтым, і над яго бацькамі, бо дзяўчына тая нават і не падазрае, з кім яна звяжа свой жыццёвы лёс! А ўсенька вылезе, бы шыла з мяшка, калі трэба будзе ўзяць сыну пасведчанне аб хрышчэнні, як не круці, але ў царкве, і сваякоў запрасіць на шлюб з вяселлем, як не круці, вясковых і „балакаючых". Неўзабаве выявіцца, што яны не толькі з тае „вёхі", але яшчэ і з... Лепей я тут не дагавару.

Нашы супер-падпольнікі, пэўна, клянуць цяпер даслоўна ўсё, што звязана з іхным радаводам. Яны не здагадаюцца клясці... дурноту сваю. Дзяўчына будзе мець маральнае права засумнявацца ў тым, ці яе будучыя муж і цесць з цёшчаю гэта сумленныя людзі, якім можна даверыцца. А на чым жа іншым абапіраецца шлюбнае жыццё, калі не на даверанасці? Можа, на грашах? Не, і ў судзе ж муж мае права адмовіцца ад сведчання супроць жонкі, як і жонка супроць мужа, бо наш закон справядліва лічыць, што злачынствам ёсць парушыць узаемны давер і павагу ў сям'і.

Гэта жахлівая жыццёвая цана, якую плацяць нашы тройчы канспіратары. Ім няўцям, што ўчыняюць яны не па-людску. Тая нарачоная сына „падпольнікаў", вельмі магчыма, не была б ані трохі супроць — і яго „вёхі", і яго праваслаўя, і беларускасці ягонай... Аднак, ці не падумае яна: хто скруціў раз, скруціць і другі раз, і трэці, і... соты! І як жа жыць з такім круцялём?! Ён жа маральна хворы, а хто раз быў хворы, той і застанецца хворым, як гавораць лекары, бо са здароўем так, як з трэшчынаю на сцяне, якую, вядома, можна атынкаваць, але яна і так застанецца, праўда, невідочнай усяго.

Баюся, што гэты шлюб бокам

(Працяг на стар. 11)

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

Кажуць мяшчане: гаспадар спіць, а ў яго расце. Хачу апісаць, як у нашай вёсцы Стась II. гаспадарыў. Яго бацька хварэў больш дзесяці год, больш праляжаў ён у бальніцах, чым дома, і, калі памёр, маці аддала гаспадарку сыну Стаську. Ажаніўся ён з рэпатрыянткаю, якая прыехала з БССР разам з бацькамі ў Гданьск. Гаспадарка дасталася Стаську добрая, з вялікім садам. Памалу набыў ён трактар, дабраў яшчэ ворнае зямлі ад ПФЗ і ўзяўся рабіць. Гадаваў свіней, меў пяць дойных кароў. Уставаў на світанні, каб паспець падаіць кароў і банкі з малаком на пятую гадзіну вывалачы на вуліцу, адкуль забіраў іх вазак малачарні. Выганяў жывіну на пашу, карміў свіней, сабе рыхтаваў паесці што-небудзь, пахлёбкі якой, дапамагаючы жонцы, ды хутчэй збіраўся ў поле. Так штодзень. А яшчэ і дзяцей дагледзь, а было іх, як спяваюць у песні, „ні многа, ні мала, штогод па дзіцяці". Спрабуй паспі, калі немаўля заходзіцца ад плачу!




Адзін раз, то Стаська нават на трактары ўзяў і заснуў. Мая жонка зглядзела гэта і крычыць да мяне: „Бяжы да Стаська, яму штосьці сталася на трактары!" Я дабег без духу да яго, бачу, спіць чалавек, расплюшчыўшыся на „кіраўніцы". Ну, разбудзіў я яго, і ён далей араў поле.

У Стася добрая была „калёнія". Лоні пасеяў ён на ёй тры гектары пшаніцы, вырасла яна каласістаю ды зярністаю, люба глядзець было! А ў садзе яго яблык тых больш, чым лісцяў на яблынях! Кажа Стась: „Прадамо, будзе чым падаткі заплаціць". З пшаніцы пірагі думаў есці. У жніво з горам ды з бядою выенчыў, каб камбайн яму прыслалі жыта жаць. І адразу ўсё, што не было яму патрэбнае, здаў у магазін у Шудзялаве. Потым яшчэ раз выплакаў той камбайн у СКРы ў Бабіках, бо авёс трэба было жаць. А пшанічку Стась сам дбайна пажаў снопавязалкаю. Вазіць яе ў стадолу не было як, бо была занадта сырая. У снапах на полі дасыхала. Пагода была, і Стась кажа жонцы: „Заўтра будзем вазіць пшаніцу". Пайшлі заранёў спаць, каб ранютка ўправіцца ды па тую пшаніцу хуценька выбрацца возам. Але ўначы дожджык папырскаў, зараза,

(Працяг са стар. 2)

## НА МЯЖЫ

ёю і хапаў яе ў дзюбу. Калі жаба была вялікая, не глынаў адразу. Спачатку рабіў з яе, можна сказаць, адбіўную і толькі тады глынаў. Пэўнага разу прыйшла мне ў галаву думка прыпаднесці жабу майму сябру, што я і зрабіў. Злавіўшы жабу, я ўзяў яе за нагу і павярнуўся да бусла. Той адступіў паўкроку назад, пасля паўкроку наперад, як з лука стралу, выкінуў сваю дзюбу і схапіў жабу. Мушу сказаць, што мяне агарнуў страх. Я баяўся, што бусел прамахнецца і што ўдарыць дзюбай мне ў руку або нават у твар. Ён, аднак, беспамылкова схапіў жабу і хуценька адышоў крокаў на пяць назад, дзе і расправіўся з ахвярай. За адзін сеанс бусел з'ядаў 4-5 жаб, пасля чаго адлятаў і даволі хутка вяртаўся . І так гэта ідылія прадаўжалася некалькі сезонаў. Калі бусла не было, мне рабілася сумна. Адносіўся я да яго, як да свайго сапраўднага сябра.

Але аднойчы наступіла здарэнне, якое назаўсёды закончыла нашу дружбу. Я пачаў касіць, і вельмі хутка прыляцеў мой прыяцель. Нечакана я дакасіўся да гнязда, у якім было прынамсі пяць птушанят. Да сёння не ведаю, якія гэта былі птушаняты. Выглядалі, як малыя куранятки, з тым што колер іх пуху быў аднародна шэры. Птушаняты кінуліся з-пад касы хто куды. І якое ж было маё здзіўленне, калі з-за маіх плячэй выскачыў бусел і пачаў іх глытаць. Я ад здзіўлення змярцвеў, а калі апрытомнеў, кінуўся наперад і касой ударыў бусла па хвасце. Аднак трое птушанят ужо знікла ў яго дзюбе. Бусел адскочыў, узняўся ў паветра і адляцеў. Я доўга перажываў убачанае. Па-першае, не мог сабе дараваць, што не заўважыў гнязда і скасіў пад ім траву. Па-другое, не змяшчалася ў маёй галаве думка, што бусел можа глытаць сваіх пабрацімцаў. Зразумела, што пасля расправы з птушанятамі бусел быў у маіх вачах звычайным драпежнікам. Мае адносіны да яго радыкальна змяніліся: з сябры стаў ён маім ворагам. Мабыць, ён адчуў гэту перамену настрою. Праўда, і ў далейшым прылятал на луг буслы. Мабыць, сярод іх быў і мой даўны сябра, але ніводзін з іх ужо не хадзіў за мною крок у крок.

**А. Барскі**

(Працяг са стар. 1)

## АДГАЛОСКІ

цам у мурашніку. Тэарэтыкі камунізму гаварылі, што камунізм будзе магчымы тады, калі фізічная праца зробіцца лішняй. Нельга гэта разумець просценька, як часамі заўважаю я тое. Знікненне фізічнай працы мусіць быць вынікам нечуванага дагэтуль развіцця тэхнікі і навукі. Прыклад можа быць: равы капалі лапатамі, а цяпер няма такога мусу, ёсць землечарпалкі. А камбайны, а іншыя прыклады... Ну так, даволі пералічваць, бо зноў нехта прычэпіцца да мяне. Але дадам вось што: як выяўляецца, на аўтаматычных фабрыках тыя ж робаты лепей і дакладней праводзяць мантаж аўтамашын, чымсьці чалавек! Можна не паверыць, але гэта праўда. Як і праўда, што нам яшчэ страшэнна-страшэнна далёка да гэтага!

Вярнуся на хвілю да нашай тут панурай рэальнасці. Вось што хачу сказаць: калі праца цяжкая, а заробак ад яе мізэрны, то чалавек добра рабіць не будзе, ён будзе азірацца, каб куды на лепшае перабегчы. Гэтак жа і з вялікай адказнасцю за малыя грошы, інакш: за вялікі ўклад свой кожны хоча мець і карысць вялікую, і гэта натуральнае ў чалавеку. А яшчэ неразумная кадравая палітыка: кадрамі кіруюць людзі, якія не ведаюць і не разумеюць усяе складанасці работы сваіх падначаленых. Таму людзі часта ўцякаюць ад такіх няўмекаватых дырэктараў, бо яны проста крыўдзяць падуладных сваёй несарыентаванасцю. Такія дырэктары гэта людзі, якія нічога не ўмеюць рабіць у жыцці, нават камандаваць разумна не ўмеюць, толькі крычаць умеюць і палохаць. Грош цана такім!

**Рышард Бутайла**

### АДКУЛЬ ЯЗВА СТРАЎНІКА

Англійскія ўрачы нядаўна заўважылі, што язва страўніка — інфекцыйная хвароба, якая выклікаецца мікробамі. З Аўстраліі атрымана пацвярджэнне гэтай гіпотэзы: у ста пацыентаў лячэнне язвы антыбіётыкамі дало вынікі не горшыя, а іншы раз лепшыя, чым традыцыйнымі сродкамі.

## ПАЕХАЛІ МЫ Ў РЫБАЛЫ

З інжынерам Рудкоўскіным ды Іванам Гайдуковічам, што з Крывой, паехалі мы ў Рыбалы. Цікавіла нас мясцовая царква як помнік нашай культуры. Гайдуковіч пачынае цікавіцца беларускай культурай і кажа, што абавязкова навучыцца ён чытаць па-беларуску, а потым, можа, і пісаць... У Рыбалах нам вельмі дапамог айцец Рыгор Сасна.

Рыбалаўскі пісьманосец Уладзімір Гуралеўскі акурат прынёс яму новую „Ніву". Пытаем у яго: колькі „Нівы" чытаюць у Рыбалах? — Ой, хлопчыкі, мала, усяго восем штук, — адказаў пісьманосец. — Маладыя дык і зусім не чытаюць анічога, не толькі „Ніву".

Гісторыя Рыбалаў багатая. Чатырыста гадоў назад Рыбалы былі ўжо шматлюднай мясцовасцю. Называліся тады: Антановічы. Было дзве царквы, вялікі вадзяны млын на блізкай адсюль рацэ Нарве, на два колы. Быў пры млыне і фолюш. У 1753 годзе пабудаваў капліцу Стэфан Грыманеўскі. Антановічы ў той час называліся ўжо так, як цяпер, — Рыбалы.



Капліца ва ўрочышчы Петрашы каля Рыбалаў. Фота Рыгора Сасны

Урочышча Цэрквіско — гэта след па даўняй царкве. Зацікавіла нас урочышча Петрашы, у якім стаіць старадаўняя каплічка. У гэтым урочышчы нямала вялізных, прыгожых валуноў. Тут і крынічка, каля якой свенцяць ваду.

Выязджалі мы з Рыбалаў у не вельмі вясёлым настроі: каля крамы валяліся п'яныя, гудзела балаганная гамана.

**А. Гаўрылюк**

Скіргайлава засада і чакала іх з'яўлення!

Аказалася, што чаго не здолеў князь мазавецкі Януш атакамі вялікага войска на сцены крэпасці, Скіргайлу ўдалося ўчыніць хітрасцю. Захапіўшы Бярэсце, ён па загаду Ягайлы ўтапіў у Бузе сваю дзядзіну, Кейстуціху Біруту.

Уцекачы кінуліся ў Мельнік. Мазавецкая варта затрымала іх, мабыць, пад Ніпіцамі, доўга і падазрона распытвала ды ў акружэнні грамадкі вояў з агаленымі шаблямі і лукамі напагатове павяла ў мельніцкую крэпасць. Гэтая недаверлівасць крыху абурыла Вітаўта, але ж давялося пагадзіцца ды ўхваліць парадак і чуйнасць швагравага войска. У Мельніку сядзелі яны даволі доўга, пакуль з Чэрска прыехаў сам князь Януш, каб сустрэць гасцей і правесці іх у сваю сталіцу.

У чэрскім замку прынялі ўцекачоў гучна, мо нават і занадта гучна як на незайздросны стан княжацкай пары без княства. Штодня як не паляванне, то танцы, а то і рыцарскі турнір на абшырным замкавым дзядзінцы. Вітаўт спрабаваў завесці размову са шваграм і сястрой, каб яны ўступілі яму занятае імі Пабужжа і Панароўе. Гэты людны край стаўся б прытулкам для яго сям'і і апорай, з якой мог бы ён павесці змаганне за вызваленне ўсяе свае бацькаўшчыны з-пад улады Альгердавічаў. Януш і Анна-Данута, прыкрываючыся рознымі прычынамі, пазбягалі сур'ёзнай размовы. Вітаўт настойваў і ўрэшце княгіня Данута заявіла, што яна — таксама дзіця Кейстута, і ёй належыцца кавалак бацькаўшчыны. Прытым сказала, што ніхто іншы, як ён сам, Вітаўт, аддаў і бацьку на смерць і ўсё княства прахітраваў. Януш жа дадаў, што Дарагічын, Мельнік і іншыя крэпасці ды землі, да іх прыналежныя, ён кап'ём, у бітвах, узяў і без бою нікому аддаваць не збіраецца. Вітаўт ускіпеў, але заўважыўшы, што ў залу ўвайшла замкавая варта і пачала акружаць яго, суцішыўся. Што ж, не толькі ў Крэве ў Ягайлы, але і ў чэрскім замку былі таксама цёмныя лёхі для вязняў і слугі ў Януша верныя, гатовыя выканаць кожны загад свайго пана. Наступнага дня раніцай Кейстутавіч разам са сваёй сям'ёй і невялічкай світай ужо пакідаў Чэрск і выязджаў на цеханоўскі гасцінец, каб шукаць прыстанішча ў... крыжакоў.

Мабыць, у Мальбарк кіраваўся Вітаўт нездарма: яго там ужо чакалі. Як і належалася князю: прыняў яго сам вялікі „містр", як называюць беларускія летапісы крыжацкага правадыра-магістра, якім тады толькі што настаў Конрад Ратэнштэйн, акружылі „цяплом і турботай". Яны праз сваіх агентаў далі знаць па ўсім Вялікім княстве, што сын вялікага Кейстута пад апекай вялікага магістра Ордэна збірае ўсіх прагнучых ратаваць спрадвечную веру продкаў і родны край ад хрышчэння яго Ягайлам. Болей нічога не тлумачылі, Ягайла быў праваслаўным — пра гэта ведалі ўсе — значыць ахрысціць хоча ў праваслаўе. Цяжка паверыць, каб такі заклік належаў праваслаўнаму хрысціяніну Вітаўту-Юрыю! Яго несумненнымі аўтарамі былі крыжакі, бо гэта яны і толькі яны намагаліся супрацьпаставіць нехрысціянскую Жмудзь праваслаўнаму Вялікаму княству, каб затым лягчэй яе зняволіць. Відаць, крыжацкая агентура на Жмудскай зямлі і ў іншых рэгіёнах Вялікага княства была магутная ды таксама яе прапаганда трапіла на прыхільную глебу, бо на заклік „прыехалі да яго (Вітаўта) многія князі і баяры літоўскія", — падае „Хроніка Быхаўца". Такім чынам крыжакі маглі трыумфаваць: Вялікае княства было падпарадкавана іхняй волі, а вялікія князі сталі іхнімі бязвольнымі служкамі. Цяпер Ордэну засталося дабіваць іх, поўзаючых ля яго ног, іхнімі ж рукамі. І ён пачаў рыхтавацца да здзяйснення гэтай выпеставанай на працягу мінулых паўтара стагоддзяў свае запаветнае мары.

З гісторыі вядома, што тое ім не ўдалося. Чаму? Аб гэтым — праз тыдзень.

**Мікола Гайдук**

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### ХАЎТУРНЫЯ ПЕСНІ

На заканчэнне, зміячаю песню „Памятайце, хрысціяне" якая характарызуецца досыць тыповым, традыцыйным для хаўтурных тэкстаў зместам. Пры гэтым аднак песня гэта адзначаецца арыгінальнай формай. Выступае ў ёй рэгулярны паэтычны радок, рыфмоўка тыпу а-а, а таксама паўторнасць рэфрэну-прыпеву, які складаецца толькі з двух слоў: „на векі".

Памятайце, хрысціяне,
Што з вамі па смерці стане,
— На векі!
Усім па смерці ісці трэба,
Чы да пекла, чы да неба
— На векі!
Чакае ўсіх адна дарога,
Бо такая воля Бога
— На векі!
Так у святой Евангеліі
Хрыстос вучыць і так веліць
— На векі!
Адных да неба узывае,
Другіх у пекло пасылае
— На векі!

Прыведзеныя мной чатыры тэксты хаўтурных песень сведчаць аб тым, што праблематычная іх сфера даволі бедная. Тое ж самае можна сказаць і аб структуры і фармальных прыёмах. Калі параўнаць іх з выключнай разнароднасцю свецкіх беларускіх фальклорных песень, дык кідаецца ў вочы іх беднасць. Падобная розніца ў некарысць беларускіх хаўтурных рэлігійных песень праяўляецца таксама тады, калі супаставім іх з тымі рускімі хаўтурнымі песнямі, якія знаходзяцца ў багагласніках. Рускія песні намнога шырэйшыя і глыбейшыя як у фармальным, так і ў тэматычным аспекце. Перавага рускіх хаўтурных песень над беларускімі выступае таксама ў філасофскай сферы. І гэта зусім зразумела. Запаўняючыя багагласнікі тэксты рускіх хаўтурных песень у аграмаднай большасці з'яўляюцца прадуктамі прафесійных пісьменнікаў або высокаадукаваных духоўных, што акрэслівае іх яксны ўзровень.

Як вядома, такога тыпу паэзіяй займаўся ў нас свядомы беларус, стойкі барацьбіт за беларусізацыю касцёла на беларускіх землях Казімір Сваяк (Стэповіч). Ён напісаў шматлікія тэксты песень, прысвечаных хаўтурнай праблематыцы, несмяротнасці душы, касмалагічным тэмам. Аднак нам у часе фальклорных даследаванняў нідзе не ўдалося сутыкнуцца з тэкстамі К. Сваяка. З гэтага факту трэба зрабіць сумны вывад, што рэлігійныя песні ксяндза Сваяка не трапілі ў народнае беларускае асяроддзе ўсходняй Беласточчыны. Зразумела, што гэтага тэзіса нельга ставіць катэгарычна. Быць можа, што ў нейкіх сялянскіх кругах, да якіх нам не ўдалося дайсці, песні Сваяка выступаюць. Кожная інфармацыя з боку чытачоў на гэту тэму мела б для нас бясцэннае значэнне.

Вяртаючыся да вельмі нешматлікіх, вядомых нам, хаўтурных беларускіх песень з усходняй Беласточчыны, трэба сказаць, што галоўнае месца займае ў іх праблема душы і што трактоўка душы ў тэкстах песень падобная да той, якая выступіла ў прыведзеных мною выказваннях найстарэйшых жыхароў беларускіх вёсак. Найбольш характэрнымі рысамі гэтай трактоўкі з'яўляюцца:

персаніфікацыя душы, успрыманне яе як жывой, хаця бліжэй неакрэсленай істоты;

актыўнасць душы пасля апушчэння цела памершага чалавека;

здольнасць душы да адчування, сузірання, рэагавання, лётання, хаджэння, гаварэння.

Уменне душы ўплываць і дзейнічаць на жывых людзей, асабліва на тых, якія астаюцца ў сваяцтве з памершымі.

Заканчваючы разважанні аб хаўтурных песнях з усходняй Беласточчыны, я хацеў бы падкрэсліць, што нягледзячы на сваю колькасную і якасную сціпласць, з'яўляюцца яны прыгожым укладам у беларускую фальклорную мазаіку.

А. Баршчэўскі

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### СВЕЖАЯ КАПУСТА З ЯБЛЫКАМІ

На паўкілаграма ялавічыны з костачкай трэба ўзяць паўкілаграма свежай капусты, 3 бульбіны, 1 морквіну, 1 цыбуліну, 2 яблыкі (найлепш антонаўкі), 2 сталовыя лыжкі шмальцу, 2 памідоры, 2 сталовыя лыжкі смятаны, перац, лаўровы лісток, зеляніну, соль.

Зварыць мясны адвар. Нашаткаваць капусту. Бульбу, моркву і памідоры парэзаць кавалкамі, цыбулю — скрылёчкамі. У кіпячы адвар палажыць капусту, а пасля гэтага бульбу. На 10 мінут перад канцом гатавання дадаць падсмажаную моркву, цыбулю і свежыя памідоры. На пяць мінут перад канцом гатавання палажыць нарэзаныя яблыкі (абабраныя і ачышчаныя), пасля чаго дадаць перац, лаўровы лісток і соль. Перад падачай на стол дадаць смятану і пасыпаць суп дробна пасечанай зялянінай.

### ТУШАНАЯ БАРАНІНА З ГРЭЦКАЙ КАШАЙ

На паўкілаграма бараніны бярэм паўтары шклянкі грэцкай кашы, адну цыбульку, 2 сталовыя лыжкі памідорнага перацёру, 2 сталовыя лыжкі масла, прыправы, соль.

Бараніну нарэзаць кавалкамі (па 20—40 г), падсмажыць яе, палажыць у каструльку і заліць мясным адварам або вадой, пасля чаго дадаць памідорны перацёр і падсмажаную цыбулю ды тушыць. Грэцкую кашу крыху падсмажыць, пасля ўсыпаць у кіпячую ваду і крыху падварыць. Змяшаць кашу з баранінай і яшчэ тушыць разам.

### БУЛЬБЯНЫЯ АЛАДКІ З БРУСНІЦАМІ

На 12 бульбін бярэм 1 сталовую лыжку мукі, 3 сталовыя лыжкі алею, 3/4 шклянкі цукру, 200 г брусніц, залітых сокам.

Бульбу абабраць і сцерці на тарцы. Дадаць соль і муку, усё перамяшаць і смажыць аладкі. Брусніцы аддзяліць ад соку, які трэба закіпяціць з цукрам. Тады палажыць у яго брусніцы і падаць да бульбяных аладак.

Гаспадыня

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка, я настаўніца, а выйшла замуж за простага рабочага. Я тады якраз працавала на вёсцы, а ён даязджаў у недалёкае мястэчка на работу. Ясная справа, што хацелася б выйсці, як кажуць, за інтэлігента, але скуль было яго там брацьу гэтай глушы?... А зрэшты, пакахала я яго. Прыходзіў да мяне штодзень, і я да яго вельмі прывязалася. Усе навокал гаварылі мне: ну, куды ты глядзіш, няўжо ты вачэй не маеш? Ці ж ён табе пара? Але калі я апамяталася, было ўжо позна: я была цяжарная. Перад самым нараджэннем дзіцяці мы ўзялі шлюб.

Спачатку я была задаволена, што ўсё ў нас неяк улажылася добра, што сын меў бацьку і маці. Але вось прайшло ўжо тры гады, і з пазіцыі сённяшняга дня я магу сказаць: тое, што звязалася я з гэтым чалавекам, было вялікай памылкай. Я ж не была ні крывая, ні сляпая, ды не старая панна. Справа нават не ў тым, што мы сварымся, ці што ён мне здраджае, не, з гэтым усё ў парадку. Але вось ён чалавек нейкі зусім без ініцыятывы. Так ужо неяк у нас прыжылося, што аб усім вырашаю я сама. Калі я скажу яму, што трэба зрабіць гэтак і гэтак, то ён, вядома, усё дакладна выканае. Так як бы быў створаны дзеля сляпога паслушэнства і для працы. Але часамі мне б хацелася, каб і ён аб нечым падумаў, што датычыцца нашага жыцця, каб і ён мог нешта вырашыць, падказаць. Але, так, як і ў жыцці, у хаце мой муж — чорнарабочы. Патрапіць прыбраць, памыць посуд, зрабіць парадкі на панадворку, нават выкупаць дзіця, а калі што да чаго — дык а то ён не ўмее сказаць, а то неадпаведна прэзентуецца, а то не ведае, як сябе паводзіць. Вось у апошні час знервавала мяне адна справа. Дзіця трэба было завесці ў прадшколле. Мой муж ўпёрся, што ён яго не павядзе, бо ён не ведае, што там мае гаварыць, з кім гаварыць, аб чым гаварыць, каму гэтае дзіця аддаць і т.д., і т.п. Ну што ж, я ўзяла за ручку сына, завяла яго ў прадшколле, пагаварыла з выхавацельніцай, сказала два словы наконт таго, якое яно, гэта наша дзіця, а пасля прыйшла, каб забраць яго з прадшколля. А вечарам вось села і пішу табе ліст і пытаюся, ці не сказаць майму мужу: згінь ты, прападзі з усім гэтым! Нерваў не хапае, бо такія гісторыі здараюцца вельмі часта. Абрыдла ўжо аб усім думаць і аб усім вырашаць.

Люба

Люба! На першы погляд хтосьці мог бы пазайздросціць табе: „Ну, і чаго ты, баба, хочаш, многія б усё аддалі, каб толькі мець такога мужа!" Але пасля мог бы і паспачуваць. Сапраўды, розніца інтэлігентнага ўзроўню мужа і жонкі мае велізарнае значэнне ў сямейным жыцці. Не хачу я гэтым сказаць, што заўсёды просты рабочы мае быць дурнейшы ад жонкі-настаўніцы. Можа быць якраз наадварот. Ну, што ж, „відзялы галы, цо бралы!" Напэўна пры табе ён не здурнеў. А ўсё ж яшчэ некалькі год назад адпавядаў табе.

Застаецца цяпер дыскрэтна заняцца адукацыяй свайго мужа, больш бываць з ім сярод людзей, часамі падказваць, як павінен сябе паводзіць, што сказаць, падсоўваць цікавейшыя артыкулы з газет. Ды толькі ніколі не гавары пры гэтым, што ты за яго разумнейшая, бо вельмі хутка можа знайсці другую, дурнейшую за сябе, з якой будзе шчаслівы, аднак.

Сэрцайка

## СОННІК



**Прыкаваць** — заручыны.
**Прыклад** у стрэльбе — будзь асцярожны са зброяй.
**Прылады** — шчаслівае і ўдачнае мерапрыемствы; працаваць імі — дабрабыт.
**Прылады** для пісьма або малявання — высокая пасада, даходная гаспадарка; для шыцця — падарунак.
**Прымірэнне** — аблягчэнне ў пакутах.
**Прымус** — нядоўга будзеш ганарыцца.
**Прыплыў** — твой лёс будзе зменлівы.
**Прысмакі** — выгоднае жыццё.
**Прыслухоўванца** — вялікая кампанія.
**Прыстань** — многа клопатаў.
**Прысуд** — цябе чакае страта; выносіць яго — не пакрыўдзь каго-небудзь нехаця.
**Прысяга** — складаны, путаны судовы працэс; прысягаць — непрыемныя звесткі.
**Прытваранца** — папярэджанне, каб жыць прыстойна.
**Прытулак** — вялікія перашкоды.
**Прытулак** для бедных — вялікая пашана.
**Прытулак** для дзяцей — дачакаешся дзяцей.
**Прычасце** — здзяйсненне намераў.
**Прышч** — турботы.
**Птаства** свойскае — дастатак; карміць — шлюб; купляць — павелічэнне даходу; рэзаць — пазбудзешся назойлівых гасцей.
**Птушкі** — прыемнае наведанне; лятучыя — прыхільныя навіны; лавіць — засмучэнне; яйкі — спадчына; купляць птушак — непрыемнасці; у клетках — павелічэнне сям'і; сядзяць — жалоба; злавіць — выйгрыш; карміць — вясёлая кампанія.

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

БЕЛАРУСКАЯ КАЗКА

## Залатая яблынька

**Заканчэнне.**
**Пачатак у папярэднім нумары.**

Галя так і зрабіла, як сказаў бычок.

Вырасла з зярнятка яблынька з залатымі яблыкамі.

Хто ні ідзе ці ні едзе каля садка — усе дзівяцца з залатой яблынькі.

Ехаў аднойчы з вайны прыгожы малады гусар. Убачыў яблыньку і спыніўся. Працягнуў руку да яе, каб сарваць залаты яблык. А яблынька — дзын, дзын, дзын! — і паднялася ўгору. Апусціў гусар руку — яблынька зноў стала на сваё месца.

Убачыла гэта праз акно Галя і кажа да мачыхі:

— Пайду я сарву гэтаму прыгожаму гусару адзін яблычак.

А мачыха як затупае на яе, як закрычыць:

— Я табе галаву сарву!

Схапіла яна Галю ды пасадзіла пад карыта, а ў садок паслала Юлю: няхай, думае, лепш родная дачка сарве гэтаму гусару яблык, можа, ён закахаецца ў яе...

Падышла Юля да яблынькі, а тая — дзын, дзын, дзын! — і паднялася ўгору.

Узлавалася Юля на яблыньку, пачала яе лаяць апошнімі словамі.

А тут якраз па двары хадзіў пеўнік. Ускочыў ён на плот і кукарэкае:

— Ку-ка-рэ-ку! Дзедава дачка пад карытам схавана, а бабіна хоча яблыкі яе сарваць ды выйсці замуж за пана...

Пачуў гэта гусар, злез з каня і пайшоў у хату. Знайшоў там пад карытам дзедаву дачку. Як зірнуў на яе, дык і вачэй не можа адарваць: так яна яму спадабалася.

— Дзеўка-дзявіца, — пакланіўся ёй гусар, — сарві мне на памяць залаты яблык са сваёй яблынькі.

Падышла Галя да яблынькі — і ўсе яблыкі ўпалі да яе ног.

Сабрала яна іх у прыпол, прынесла гусару. Гусар падхапіў яе, пасадзіў на каня побач з сабою і павёз да сваіх бацькоў.

Дома яны згулялі вяселле і сталі жыць-пажываць у згодзе ды ў ладзе. Нарадзіўся ў іх сын, ды такі прыгожы, што бацькі не нацешацца з яго.

Тым часам злая мачыха не магла спаць ад зайздрасці, што гусар не яе дачку, а дзедаву замуж узяў. І ўсё думала, як са свету звесці.

Аднаго разу кажа яна сваёй дачцэ:

— Схадзі ты, дачушка, да сястры ў госці. Пакліч яе з сабой купацца ды ўтапі...

Паслухалася Юля маткі, пайшла ў госці да сястры. Падгаварыла яе купацца. На рэчцы кажа ёй:

— Сядзь ты, сястрыца, на кладцы, я табе плечы памыю.

Села Галя на кладцы, а Юля скінула яе ў ваду і пабегла дахаты.

Чакаюць дома Галю — няма. Малы сын плача, ніхто суцешыць не можа. Узяла яго нянька на рукі, пайшла ўздоўж рэчкі гукаючы:



— Галя, Галюся, твой маладзён плача, есці хоча. Куры спяць, гусі спяць, адзін ён не ўсыпаецца, маткі не дачакаецца...

І чуе яна голас з вады:

— Ой цяжка мне выйсці да сына: камень ногі падбівае, вада вочы залівае...

(Працяг на стар. 10)

Барыс Сачанка

## Хлеб

Было гэта даўно. Адразу ж пасля вайны. У голад.

Маці прынесла аднекуль акрайчык хлеба. Доўга-доўга разглядала яго, нюхала, паварочвала і так і гэтак, нібыта не верыла вачам сваім, што на далоні ў яе ляжыць хлеб — сапраўдны жытні хлеб, спечаны з чыстай, без ніякага дамешку, мукі, на подзе печы, на свежым дубовым лісці, прожылкі якога так прыгожа адбіліся на скарынцы. Потым яна нейк, як мне падалося, аж надта борзда і неахайна разламала акрайчык напал: адзін кавалак дала мне, а другі палажыла на стол, пад абрус.

— Гэта Толіку... Вернецца з лесу — то павячэрае...

Сама ж, узяўшы капаніцу, пайшла на агарод акопваць бульбу.

Я вельмі хацеў есці. І той кавалачак хлеба, што дала мне маці, з'еў, праглынуў мігам. І, вядома, ані не наеўся, толькі растравіў яшчэ больш свой голад. Хвілін колькі я не мог нідзе знайсці сабе месца. Чамусьці лазіў на печ, пад ложак, выбягаў на двор і зноў — каторы раз! — вяртаўся назад у хату. Потым усё ж не вытрымаў. Падсеў да стала, адгарнуў абрус, узяў у руку той кавалачак хлеба, што пакінула была маці Толіку, майму старэйшаму брату. Не есці ўзяў. Проста так, паглядзець. Палюбавацца хлебам, як любавалася кагадзе маці. І тады раптам мне здалося, што маці мяне абдзяліла, брату пакінула хлеба намнога больш, чым дала мне. Ад братавага кавалачка я адшчыпнуў крошачку. Адну маленечкую, малюпасенькую крошачку. Укінуў яе ў рот. Пачаў жаваць. Калі пракаўтнуў, не заўважыў, як пальцы самі, не пытаючы ў мяне на тое згоды, адшчыпнулі яшчэ крошачку. Маленечкую, малюпасенькую крошачку...

... Схамянуўся я тады, калі на маёй далоні асталася адна абшчыпаная скарыначка. Што я нарабіў?! Што скажа маці, брат, калі вернуцца дахаты?..

Хуценька-хуценька я палажыў скарыначку на стол, накрыў яе абрусам. Але спакуса з'есці хлеб увесь, каб яго і духу не было ў хаце, каб ім і не пахла нават, была такая вялікая, такая неадольная, што я не вытрымаў — зноў падсеў да стала, узяў скарыначку ў рукі і ўкінуў яе ў рот...

Брат вярнуўся з лесу, як заўсёды, позна, на змярку. Ён цэлы дзень быў на леспрамгасаўскай дзялянцы, абсякаў суччa, зарабляў грошы, каб было за што нашай сям'і жыць. Дома есці ў нас не было нічога. І спаць брат лёг у той вечар галодны. Ён доўга варочаўся на пасцелі, не засынаў: няйнакш, яму мроіўся той кавалачак хлеба, які пакідала яму маці і які з'еў я...

Ніхто — ні маці, ні Толік — ні ў чым мяне не папракнулі. Ні ў той вечар, ні пасля. Яны былі старэйшыя, я меншы.

Але калі я цяпер успамінаю той хлеб, які належала з'есці брату і які з'еў я, і той вечар, калі брат лёг праз мяне спаць галодны, мне робіцца не па сабе. Здаецца, аддаў бы ўсё, каб толькі не было ў мяне такога ўспаміну, каб як-небудзь пазбыцца, выкінуць яго са сваёй галавы. Лепей бы быў я тады галодны, лепей бы я лёг спаць не еўшы! Хай бы не я, а брат з'еў мой хлеб!..

Ды не! Таго, што было не вернеш, не пераробіш. І з памяці сваёй, як бы ні хацеў, не выкінеш. Не, не выкінеш!..

## БЕЛАРУСКІЯ ПТУШКІ

### КАЗКА ПРА ДЗЯТЛА І ДРАЗДА

**Казаў дзятлу пеўчы дрозд:**
**— От каб мне твой пекны хвост!**
**Ды каб дзюбу, як у цябе**
**Што так хвацка ствол дзяўбе!..**
**Я б у дрэвах —**
**Дзень і ноч —**
**Дуплы біў, аж іскры з воч,**
**І крычаў на ўсю зямлю:**
**— Хто бяздомны —**
**пасялю!**

**Казаў дзяцел да дразда:**
**— От каб мне твая дуда!**
**Я б такую песню спеў —**
**Увесь свет бы абамлеў.**

**Тую гутарку ў бары**
**Нейк пачуў арол стары...**
**А здаўна быў**
**той арол**



**Чарадзеем навакол...**
**І махнуў арол крылом —**
**Дзяцел стаў ураз**
**драздом,**
**А другім махнуў — і дрозд**
**Дзятлам стаў уміг запрост.**

**Азіраюцца, глядзяць —**
**Пёркі ярка зіхацяць.**
**Толькі ў дзятла —**
**вось бяда! —**
**Не пяецца спеў дразда;**
**І дразду — ну, хоць памры:**
**Не прабіць дзюбкай кары...**

**Дзень прайшоў, мінуў другі...**
**Дрозд марнее ад тугі...**
**Дзяцел сціх, —**
**Сярод ляшчын,**
**Як чужак, сядзіць адзін...**
**Кожны думае з журбой:**
**Як зноў стаць самім сабой?..**

**— Што ж... —**
**Сказаў стары арол —**
**Добра ўдарцеся аб дол...**
**Тады зноў —**
**крыла кіўком**
**Я зраблю**
**дразда — драздом,**
**Дзятла — дзятлам...**
**Зноў каб вы**
**Лес будзілі векавы...**
**Ды ўсім сэрцам**
**Берaглі**
**Дар,**

(Працяг на стар. 10)

## БЕЛАРУСКІЯ МУЗЫЧНЫЯ ІНСТРУМЕНТЫ




Робіцца з дрэва або з кары. Мае 4—8 адтулін. Граюць на дудках пад акампаніямент гармоніка, скрыпкі, цымбалаў. На жаль, парныя дудкі зараз амаль што зніклі.

(Працяг са стар. 9)

## ЗАЛАТАЯ ЯБЛЫНКА

Пачуў малы сынок матчын голас і яшчэ мацней заплакаў.

— Ой іду, сынок, ой бягу, — адгукаецца маці. — Слухаць плач твой, сынок, не магу.

Выйшла маці з вады, накарміла сына, — ён і заснуў. А сама назад пайшла.

Вярнулася нянька дадому, расказала, што было каля рэчкі.

Назаўтра сам бацька ўзяў залаты яблык і сына ды пайшоў да рэчкі. Прыйшоў на бераг і гукае:

— Галя, Галюся, твой маладзён плача, есці хоча. Куры спяць, гусі спяць, адзін ён не ўсыпаецца, цябе не дачакаецца...

Пачула маці сынаў голас і адказвае:

— Ой іду, сынок, ой бягу: слухаць плач твой, сынок, не магу.

Выйшла яна на бераг, накарміла сына, — ён і заснуў. Тады муж дастаў з кішэні залаты яблык і даў жонцы. Як толькі ўкусіла яна залаты яблык — адразу апрытомнела.

Зарадаваўся муж, прывёў яе дадому. Сталі яны зноў жыць добра і шчасліва.

А злую мачыху з яе дачкою больш да сябе і на парог не пускалі.

**Заданне ад „Зоркі“.**

**Нарысуйце ці намалюйце адну, хто якую хоча, ілюстрацыю да казкі „Залатая яблынька“ і прышліце ў рэдакцыю, надрукуем.**

## Вясёлы куточак



Верасень — месяц школы

## ЦІКАВА

Адзін гектар лесу ці саду за год ачышчае ад вуглекіслага газу і пылу 18 мільёнаў кубаметраў паветра.

*

Маланка ніколі не ўдарае ў птушак, бо птушкі пакрыты пер'ем, а пер'е з'яўляецца выдатным ізалятарам электрычнасці.

*

Адна сцябліна кукурузы за лета высмоктвае з зямлі 200 літраў вады.

*

Без ежы чалавек можа пражыць каля сарака дзён, без вады — шэсць-сем дзён, а без кіслароду — усяго некалькі (пяць-шэсць) мінут.

*

Для збору аднаго кілаграма мёду пчале трэба „налятаць“ каля 300 тысяч кіламетраў і наведаць 19 мільёнаў кветак.

## Вучнёўская творчасць

### ВУЧУСЯ РЫСАВАЦЬ

Кшысь Кшыжак, вучань 5 класа ў школе нумар І у Бельску. Ён захацеў вучыцца добра рысаваць. І апрача таго, што ён ходзіць на заняткі ў школе па пластыцы, ён яшчэ вучыцца рысаваць у Барыслава Рудкоўскіна, вядомага любіцеля прыроды і дасканалага мастака.

Свае першыя рысункі Кшысь прыслаў „Зорцы“. Гэтыя раслінкі ён, пакуль што, перарысаваў з Беларускай энцыклапедыі, а не з натуры, але тэхнічна выканаў гэта правільна — тушам на брыстолі.



Цмін пясчаны



Лісахвост

### МАЯ ЛЮБІМАЯ ПТУШКА

Дома ў мяне жыве маленькая птушка. Завецца яна Цішка. Гэта зялёны хвалісты папугайчык. Дзюбка ў яго вострая і Цішка любіць яе вастрыць аб кавалак крэйды, якая ёсць у яго ў клетцы. Гэтаю дзюбкай Ціша моцна кусаецца, калі што яму не падабаецца. Ён распускае хвост і злосна фыркае: „Не падыходзь!“ Але птушка хутка супакойваецца. І тады пачынае, хутка перабіраючы ружовымі лапкамі з вострымі кіпцюрамі, узлазіць на штору. Урэшце зялёныя з чорным крылы раскрываюцца, бо Ціша гэтага хоча. Ёсць яшчэ і хвост, які распукаецца як веер.

Больш за ўсё Ціша любіць слухаць музыку і грызці ўсё нелюдмае: газеты, ніткі, кнігі. Дзверцы ягонае клеткі заўсёды адчынены, і за дзень Ціша „з'ядае“ тры вокладкі кніг, свежую газету і размотвае ніткі.

Ціша — гаваручы папугай. Ён можа гадзінамі паўтараць любімыя выразы, недзе пачутыя: „Ціша добры“, „Ціша птушка-разумніца“, і гэтак далей.

Мы з Цішам сябры. Я вельмі люблю гэтую маленькую птушку за вясёлы нораў.

Вольга Раковіч
вуч. 6 класа,
Мінск, БССР

Жыў на свеце трубач. Аднойчы прыйшоў дадому, паставіў сваю трубу на акно. Акно было расчынена, а на вуліцы гуляў лёгкі ветрык. Убачыў ветрык на акне трубу, зацікавіўся: „Што гэта такое? У коміны хат і вялікіх заводаў я дзьмуў, а вось у трубу — не“. Разбегся ветрык, сабраў усю сваю моц і дзьмухнуў. З трубы выскачыла Нота і паляцела ў свет.

## МУЗЫЧНАЯ НОТА

Ляцела, ляцела і прыляцела да дома, дзе жыў чалавек, які піша музыку, — кампазітар. Заляцела Нота ў фортку. Бачыць: стаіць на раялі разлінееныя сшытак, а ў ім — поўна нот. І наша Нота села паміж імі.

— До-фа-мі-рэ-соль-сі-до! Ля! Што такое? — здзівіўся кампазітар. — Адкуль узялася гэта нота? Паспрабуем яшчэ раз: Соль-сі-до! Ля! Не, яна не павінна тут быць! Вось жа стаіць нота „рэ“. До-фа-мі-рэ. Соль-сі-до-рэ! Зараз мы гэта „ля“ выкраслім.

Спалохалася Нота і хуценька выскачыла ў акно.

— Ух ты! — уздыхнула з палёгкай. — Гэтак і сапраўды могуць выкрасліць.

Ляціць Нота далей. Раптам чуе — музыка гучыць. Агледзелася, а гэта — тэатр. Заляцела Нота ў тэатр. А там на сцэне аркестр. А нотаў над ім — што машкары. Раптам наперад выйшаў спявак з доўгай барадою і пачаў спяваць басам.

„Вось каму я, відаць, патрэбная“, — падумала Нота.

А спявак браў голасам усё вышэй і вышэй: — А-а-а! А-а-а! — І раптам нізкае: — У-у-у!

Ад нечаканасці ён змоўк. Збянтэжыўся і аркестр. Спявак здзіўлена азірнуўся, не разумеючы як гэта ў яго атрымалася.

Спалохалася Нота: і тут яна не на сваім месцы. І, каб ніхто не заўважыў, — шусь у акно!

Ляцела і думала, што трэба, відаць, вяртацца дадому, да свайго музыкі. Але раптам апынулася каля школьнага акна. Зазірнула туды. А там каля чорнай разлінеенай дошкі стаіць дзяўчынка і плача, а дошка спісана нотамі.

— У цябе ўсё добра, Аленка, — кажа настаўніца, — толькі ў другім такце не хапае адной ноткі. Падумай, не хвалюйся...

Пачула гэта Нота, прыгледзелася да дошкі. І сапраўды, у адным месцы зверху ёсць нота і знізу ёсць, а пасярэдзіне — пуста. Нядоўга думаючы, скокнула яна на гэта месца і сцішылася.

— Не плач, Аленка, — кажа настаўніца. — Паглядзі на дошку ўважліва... Але што гэта? — здзівілася яна і надзела акуляры.

— Яе ж, здаецца, не было. Цяпер тут сапраўды ўсё правільна. Стаўлю табе „выдатна“.

Яна раскрыла Аленчын дзённік і паставіла пяцёрку.

А дзяўчынка ўзяла крэйду і падмалявала Ноту.

„Вось дзе я патрэбна!“ — падумала Нота і засталася ў школе.

Сяргей Тарасаў

(Працяг са стар. 9)

## КАЗКА ПРА ДЗЯТЛА І ДРАЗДА

што продкі вам далі...
— Дзякуй, мудры наш!..
— Хвалу
Птахі крыкнулі арлу...
Ды зрабілі ўсё
хутчэй,
Як сказаў ім чарадзей...
І на радасць лесу —
зноў
Дрозд запеў між певуноў,
І, на смольны сеўшы сук,
Дзяцел свет вітаў: „Тук-тук!..
З той пары
па гэты міг
Чуем мы сяброў лясных:
Зранку, ўдзень
здалёк чутны —
З ласкай, з любасцю
яны!
Калі дрозд пачне свой спеў —
Дзяцел ціпіыцца між дрэў,
А як дзяцел дуплы б'е —
Дрозд ціхусенька пяе...

Кастусь Кірэенка

## ДЛЯ ЗДОЛЬНЫХ І ДАПЫТЛІВЫХ

**У цэнтры маленькага століка ляжыць кальцо. Трэба надзець яго на вяроўку. Паднімаць кальцо і датыкацца да яго нельга!**

*

**Вазьмі кусок вяроўкі і ножніцы. Паспрабуй за адзін раз гэтую вяроўку разрэзаць на чатыры часткі.**

## АДКАЗ

на загадку з 38 нумара „Зоркі“

Загадка: „Што за дзіва, што за рэч“.

Адказ: Зоркі ў небе.

## АДГАДАНКА

### ЦІКАВАЯ АРЫФМЕТЫКА

Рад са ста лікаў мае такі выгляд:

100+99-98-97+
+96+95-94-93+
+92+91-90-89...
+4+3-2-1=?

Шматкропе абазначае, што ў тым месцы не запісаны іншыя патрэбныя лікі раду. Іх вам трэба ўпісаць. Вы, уважліва паглядзеўшы, напэўна ўжо здагадаліся, што кожны наступны лік з гэтага раду на адзінку меншы, чым папярэдні, а пасля двух плюсаў перад лікамі ідуць два мінусы.

Напішыце поўны рад і рашыце, які будзе канчатковы вынік.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 344020, г. Ростов-на-Дону, пер. Самоходный-18, Гребневой Инне. 6 клас.

* * *

БССР, 230002, г. Гродна, вул. Дамброўскага, 63, кв. 9, Алена Бекіш, 4 кл.


Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

### ЕЗДЗІЎ ДЗЕДКА ДА СЫНОЎ

Сумна з бабай стала дзеду,
Кажа ёй: „У горад еду".
Сем сыноў у бабы з дзедам —
Трэба кожнага адведаць...
Вось паехаў дзед ад бабы —
Знік і след, згубіўся, мабыць.
Месяц дзеда ўжо няма.
Ні паштоўкі, ні пісьма.
Гора ў бабы — дзед не едзе.
Непакоіцца суседзі.
На другі ажно ўжо месяц
Заяўляецца, нарэшце.
Ставіць баба хутка дзеду
Усё, што трэба да абеду.
Час ішоў. За словам слова...
Завязалася размова.
— Перш паехаў да Сяргея.
У Сяргея жыць умеюць:
Каву кожным вечарком
П'юць з „Птушыным малаком".
— Ну, а як там у Валодзі?
— У Валодзі — грэчка ў модзе.
Даў і нам ён крыху крупаў,
Каб ты мне зварыла супу.
Потым з'ездзіў да Панаса,
Там наеўся ананасаў.
— А ці быў ты, дзед, у Колі?
— Добра ў Колі — ежы ўволю.
Столькі розных там прысмакаў,
Што не хочуць есці ракаў.
У Івана — шмат бананаў —
Ежу носяць з рэстарана.
А чырвонай рыбай, Ганна,
Аб'ядаўся я ў Яна.
Толькі ў Сашы — ежа наша:
Бульба з салам, з сыраквашай.
З ім бы нам дажыць свой век.
Саша — просты чалавек.

**Сяргей Навоеў**



# НІЎКА

З суседскага агародчыка




### ЯШЧЭ АДНА

— Ведаеш, у Кавалевіча на ўтрыманні ўжо дзве жонкі.

— Я не ведаў, што ён ажаніўся другі раз.

— Ён не, яго сын ажаніўся.

### КАСТУСЬ У СУДЗЕ

Суддзя: — Абвінавачаны, вы назвалі пані Задрыпкоўскую старой ведзьмай. Гэта праўда?

Кастусь: — Праўда, але я гэтага не сказаў...

### ПАРАДА

Маці, гуляючы з дачкой у парку, гаворыць:

— Хадзем дадому, бо я так стамілася, што не магу больш на нагах стаяць.

— Дык ты пасядзі, а я пабегаю, — параіла дзяўчынка.

### ЗДЗЕЛКА

— Зрабіў добрую здзелку. Замяніў свой саксафон на матацыкл.

— Дзе ты знайшоў такога дурня?

— Не трэба было шукаць, гэта мой сусед з-за сцяны.

### ДОБРАЯ ЗВЫЧКА

Бацька да сына:

— Памятай, гэта добрая звычка: перш падумаць, а потым гаварыць.

— Так, але я не паспею падумаць, як дзяўчына мяняе тэму.

### УПІКАННЕ

Таксі сутыкнулася з грузавіком. Абодва вадзіцелі ўпікаюць адзін другога. Урэшце таксіст гаворыць:

— Сляпы ты, ці што?

— Чаму сляпы? Дык я ж не прамахнуўся!..



**Калі ў яго не хапала слоў для ўдзячнасці, даставаў кашалёк.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Перад вамі, сэр, самая высокая гара ў нашым штаце.

— А што, існуюць, пэўна, якія-небудзь легенды, звязаныя з гэтым месцам?

— Колькі хочаце! Двое закаханых, напрыклад, аднойчы ўзлезлі на гэту гару і больш сюды не вярнуліся.

— Цікава. І што ж, яны кінуліся ў цясніну?

— Не, яны спусціліся з другога боку.

— * —

Жонка памершага палітычнага дзеяча ўдзельнічае ў спірытычным сеансе. Урэшце медыуму ўдаецца наладзіць з ім сувязь, і памершы перадаў просьбу даслаць яму блок сігарэт. Удава ўсклікнула:

— Але ён жа не сказаў, куды іх даслаць — у пекла ці рай!

— Па-мойму, усё ясна, — сказаў медыум. — Ён жа не прасіў запалак!



**— Ці ў вас не знойдзецца для мяне якой-небудзь работкі? Напрыклад, аднесці грошыкі ў банк?..**

**З „Весніка Задрыпоніі"**

### КАЛІ Б Я БЫЎ ДЫРЭКТАРАМ...

... дык усе лічылі б мяне куды разумнейшым, чым я з'яўляюся на самай справе.

### ПАРАДА ЛЕКАРА

Каб пазбегнуць страўнікавых захворванняў, ніколі не ешце поедам тых, каго вы не пераварваеце.



**Пан Задрыпкоўскі ў дні водпуску.**

### ВЕРАБЕЙ У ШПАКОЎНІ

Ладзілі шпакоўню для Шпака, а пасяліўся Верабей. Шмыгнуў зухавата з вераб'іхаю. Жывуць. Ну, калі ўжо так сталася, — жывіце здаровы. Але Вераб'ю гэтага мала.

— Жыву ў шпакоўні, — набучыўся ён, — вось і называйце мяне Шпаком.

— Верабейка, мілы, — абразумліваюць яго іншыя птушкі, — схамяніся! Ты ж супроць Шпака драбніца: і масць не тая, і заспяваць, як ён, не зможаш.

— Пустое. Шпакоўню маю, вось — шпак, — заця́ўся Верабей. Усім ужо вушы працвірыкаў, але дарма, бо спрод птушак заведзена цвёрда: жыві хоць у шпакоўні, хоць у арліным гняздзе, ды калі ты верабей — вераб'ём і называць будуць.




# Курёзы

### АД НЯЎЦЕШНАЙ СЯБРОЎКІ

Найвышэйшы ўзор сентыментальнасці прадэманстравала англійская графіня Маунт-Эджкамб, якая жыла ў другой палове XVIII стагоддзя.

Пры ўездзе ў Плімут на голым узгорку да гэтай пары можна бачыць дзесяціметровы манумент у гонар вернага сябра графіні — свінні Купідоны. Мала таго, што свінка жыла ў загарадным асабняку графіні і суправаджала яе ва ўсіх прагулках, Купідона не адставала нават та-




ды, калі гаспадыня адлучалася ў Лондан, — сяброўкі разам садзіліся ў карэту, разам прыбывалі ў сталіцу, разам рабілі візіты. Пасля смерці Купідона спадобілася быць пахаванай у залатой труне. На жаль, духоўнік графіні забараніў ёй выбіць сентыментальныя словы на манументе — так што чужынцам і няўцям, чый вечны сон ахоўвае дзесяціметровы камень.




**Тое, што за шчасце трэба змагацца, ведаюць усе. Але не ведаюць — з кім.**